ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.

№ 3 (1640) | Аўторак, 9 студзеня 1962 года. | Цана 4 кап.

## НОВЫЯ ОПЕРЫ І БАЛЕТЫ

Тэатр оперы і балета, як і іншыя мастацкія калектывы рэспублікі, павінен адыгрываць вялікую ідэйна-выхаваўчую ролю, развіваць у савецкім чалавеку «якасці будаўніка новага свету». (З Праграмы КПСС). Гэтага можна дасягнуць пры наяўнасці ў рэпертуары твораў, прасякнутых «аптымізмам і жыццесцвярджальнымі камуністычнымі ідэямі».

Намаганні тэатра ў стварэнні сучасных опер і балетаў і іх пастаноўцы далі пэўныя плённыя вынікі. Хоць опера Ю. Семянякі «Калючая ружа» і балет Я. Глебава «Мара» не з'яўляюцца ва ўсіх адносінах бездакорнымі, спектаклі па гэтых творах сваімі жыццесцвярджальнымі ідэямі, яркай своеасаблівай музыкай і некаторымі вобразамі сучасніка атрымалі прызнанне гледача. Зразумела, што названыя спектаклі толькі «першыя ластаўкі» ў вялікай справе камуністычнага выхавання савецкіх людзей, якую закліканы выконваць мастацкі калектыў адзінага ў рэспубліцы музычнага тэатра.

У адрас тэатра за апошні час выказана многа слушных дакораў і добразычлівых пажаданняў. Было заўважана, што афіша тэатра празмерна запаўнялася аперэтай і мала было ў ёй твораў беларускіх кампазітараў, опер на надзённыя тэмы, а таксама рускай класікі.

Многа правільнага сказана ў друку і на сходах пра недастатковую ўвагу кіраўніцтва да некаторых старых спектакляў, да ўдасканалення выканаўчага майстэрства салістаў, асабліва малодшага пакалення.

Мы можам да гэтага дадаць, што хацелася б большай творчай дзелавой сувязі тэатра з кансерваторыяй і з харэаграфічным вучылішчам — з асноўнымі крыніцамі папаўнення калектыву беларускімі артыстамі.

Турбуе і тое, што плеяда таленавітых беларускіх дэкаратараў, якія былі выхаваны выдатным мастаком С. Нікалаевым і станоўча праявілі сябе ў ранейшых пастаноўках тэатра, за апошні час менш удзельнічае ў афармленні новых спектакляў. Не відаць асаблівай перспектывы для іх і ў рэпертуары, які плануецца на 1962 год.

Ёсць іншыя слушныя і сур'ёзныя прэтэнзіі да творчай дзейнасці тэатра.

Наш карэспандэнт звярнуўся да галоўнага дырыжора Л. Любімава з просьбай расказаць аб творчых планах тэатра ў новым годзе, якія вынікаюць з задач, пастаўленых перад майстрамі мастацтва XXII з'ездам КПСС.

— Мы лічым сваім галоўным абавязкам, — сказаў Л. Любімаў, — развіваць творчыя сувязі з беларускімі кампазітарамі і лібрэтыстамі і гэтым самым спрыяць з'яўленню новых опер, балетаў на тэмы нашых велічных дзён.

Мастацкае кіраўніцтва тэатра нядаўна пазнаёмілася (у клавіры) з першым і другім актам новага балета Г. Вагнера (лібрэта М. Алтухова па матывах рамана П. Броўкі «Калі зліваюцца рэкі»). Першае ўражанне аб гэтым творы добрае. Задавальняюць яго музычная драматургія, нацыянальныя танцы (у прыватнасці рускія, літоўскія і латышскія). Трапна пададзены сатырычныя матывы. Ёсць узлёты і ў сімфанічным развіцці музыкі. Тэма дружбы савецкіх народаў, якая складае галоўны пафас кнігі П. Броўкі, знайшла сваё адлюстраванне і ў творы Г. Вагнера.

Можна спадзявацца, што другі балет кампазітара па сваіх мастацкіх якасцях будзе вышэйшы за яго першы харэаграфічны твор «Падстаўная нявеста», які таксама знаходзіцца ў рэпертуары тэатра.

Пастановачная брыгада, якая складаецца з балетмайстра А. Андрэева, дырыжора Л. Любімава і мастака Я. Чамадурава спадзяецца паказаць гледачам новы беларускі балет у пачатку будучага сезона.

Тэатр падтрымлівае сталыя творчыя сувязі з кампазітарам Я. Глебавым і лібрэтыстам М. Алтуховым, якія пішуць лірыка-камедыйную оперу з элементамі музычнай сатыры.

Новая сучасная опера Ю. Семянякі на тэкст А. Бачылы «Залаты вальс» блізкая па жанру і тэме да першай оперы маладога кампазітара. Мастацкі савет пасля абмеркавання лібрэта параіў аўтару дапрацаваць свой твор. Тэатр спадзяецца, што садружнасць Ю. Семянякі і А. Бачылы зноў будзе плённай.

— Аднак, — сказаў Л. Любімаў, — тэатр чакае значна большай творчай актыўнасці беларускіх кампазітараў і пісьменнікаў у справе стварэння нацыянальных опер і балетаў на тэмы сучаснасці.

Рэпертуар тэатра ў новым годзе папоўніцца і іншымі творамі.

Аўтар дзіцячай оперы «Церамцерамок», украінскі кампазітар І. Польскі прапанаваў паставіць яго балет «Пралескі», прысвечаны нашым піянерам.

Эстэтычнаму выхаванню гледачоў спрыяе і класіка.

У новай класічнай рэдакцыі балетмайстар А. Андрэеў ставіць «Дон-Кіхот» Мінкуса. Аднаўляецца «Аіда» Вердзі з новымі выканаўцамі цэнтральных партый. Аіду будзе спяваць Г. Грышчанка, Амнэрыс — П. Дружына, Радамэса— Б. Нікольскі.

У 1962 годзе будуць упершыню пастаўлены адна з лепшых опер С. Пракоф'ева «Дуэн'я» і опера Пучыні «Дачка Захаду».

Пасля «Дон-Кіхота» балетмайстар А. Андрэеў будзе працаваць над вечарам аднаактовых балетаў. Ён складаецца з «Вясны свяшчэннай» І. Стравінскага, «Праметэя» Бетховена і «Мініяцюры» Р. Вагнера.

— Рэалізацыя рэпертуарных планаў, — гаворыць Л. Любімаў,— патрабуе папаўнення калектыву новымі спевакамі і рэжысурай.

Тэатр задаволены маладымі артыстамі — выхаванцамі нашай кансерваторыі. Гэта — М. Пушкароў (бас), В. Гур'еў (тэнар) і стажор Э. Акімаў (барытон). Творчы рост паказалі і іншыя маладыя салісты.

Кіраўніцтва тэатра заклапочана тым, каб маладыя артысты, якія прыйшлі на змену старым, здолелі на высокім узроўні выконваць складаныя партыі рэпертуару, стварылі добра зладжаны ансамбль салістаў. Павінны быць запрошаны і новыя спевакі — драматычны тэнар, драматычнае сапрана, меца-сапрана. Артыстаў з такімі галасамі ў нас вельмі мала.

— Вось некаторыя творчыя меркаванні тэатра на 1962 год, — сказаў у заключэнне гутаркі Л. Любімаў. — Гэта будзе нашым першым практычным водгукам на гістарычныя рашэнні XXII з'езда КПСС. Яшчэ больш давядзецца зрабіць у будучым і да гэтага рыхтуецца ўвесь калектыў Тэатра оперы і балета.

## БАГАЦЦІ КІНО— УСЯМУ НАРОДУ

**(ГУТАРКА З НАМЕСНІКАМ МІНІСТРА КУЛЬТУРЫ БССР М. МІНКОВІЧАМ)**

Кінафікатары Беларусі датэрмінова выканалі план 1961 года і паспяхова пачалі працаваць у новым годзе. У гутарцы з карэспандэнтам БЕЛТА намеснік міністра культуры БССР М. Мінковіч расказаў:

— У мінулым годзе зроблен значны крок па шляху суцэльнай кінафікацыі сяла. З пачатку сямігодкі ў строй уведзена каля 1 400 новых кінаўстановак, з іх 908 у сельскай мясцовасці.

У сувязі з падрыхтоўкай да XXII з'езда КПСС у кінасетцы рэспублікі разгарнулася шырокае сацыялістычнае спаборніцтва за датэрміновае выкананне вытворчых заданняў, паляпшэнне кінаабслугоўвання насельніцтва, прадаўжэнне тэрмінаў службы апаратуры і фільмафонду.

Ва ўсіх абласцях пачалі выкарыстоўвацца ўстаноўкі дзённага кіно, што дазволіла даваць сеансы непасрэдна ў полі, на малацільных таках, жывёлагадоўчых фермах.

Больш сеансаў стала давацца для школьнікаў. Сярод самых маленькіх гледачоў вялікую папулярнасць заваявалі перасоўныя кінатэатры «Малютка», змантіраваныя на базе аўтобусаў.

Лепш пачалі рэкламавацца фільмы. Для гэтага выкарыстоўваюцца радыёгазеты, абмеркаванне гледачамі фільмаў, створаных па творах савецкіх пісьменнікаў, і іншыя формы. Палепшыўся паказ хранікальна-дакументальных і навукова-папулярных фільмаў, Усё гэта дазволіла за 11 месяцаў 1961 года абслужыць амаль на 13 мільёнаў гледачоў больш у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года.

Вялікія перспектывы адкрываюцца ў развіцці кінафікацыі на бліжэйшыя гады У сталіцы рэспублікі ў 1962 годзе пачнецца будаўніцтва двухзальнага дзіцячага кінатэатра. Новым кінатэатрам узбагаціцца пасёлак мінскіх аўтазаводцаў, на плошчы імя Леніна будзе пабудаваны панарамны кінатэатр на 2.500 месц. Заканчваецца пераабсталяванне раду існуючых кінатэатраў у Мінску, Гродна, Магілёве пад шырокафарматны экран. Колькасць месц у гарадскіх кінатэатрах павялічыцца за сямігоддзе ў два разы.

У кінасетцы, якая абслугоўвае насельніцтва сельскай мясцовасці, усё яшчэ многа перасоўных установак, што сур'ёзна адбіваецца на якасці дэманстравання кінакарцін. Прымаюцца сур'ёзныя меры па ліквідацыі гэтага недахопу. У сёлетнім годзе намечана ўвесці 70 новых стацыянарных установак, а таксама замяніць стацыянарамі 160 кінаперасовак. Дзейны ўдзел у вырашэнні гэтай задачы прымаюць калгасы. Так, у сельгасарцелі «Маяк камунізма» Барысаўскага раёна пабудаван клуб на 500 месц, які стане адначасова і добрай кіназалай. Сваю кінаапаратуру набываюць 14 калгасаў Глыбоцкага раёна. Падобныя прыклады не адзінкавыя.

Ставіцца задача, каб кожны калгас меў свой кінатэатр. Для гэтага прадугледжваецца ў бліжэйшыя гады абсталяваць 1 100 кінастацыянараў. Там, дзе ёсць пакуль аднапостныя стацыянарныя ўстаноўкі, будуць устаноўлены другія пасты, чым забяспечыцца бесперапыннасць дэманстрацыі фільмаў. К канцу сямігоддзя мы здолеем амаль поўнасцю адмовіцца ад кінаперасовак і дабіцца суцэльнай кінафікацыі населеных пунктаў рэспублікі.

## ВЕТЭРАНЫ САМАДЗЕЙНАЙ СЦЭНЫ

Прэм'ера спектакля «200 тысяч на дробныя выдаткі» па камедыі Ул. Дыхавічнага і М. Слабадскога ў Народным тэатры Дома культуры магілёўскіх чыгуначнікаў пачалася крыху незвычайна. На авансцэну пад бурныя апладысменты гледачоў былі запрошаны артысты Народнага тэатра Яўген Сяргеевіч Лаўрэнцьеў і Мікалай Міхайлавіч Скарабагаты. Яны — юбіляры. Першы ўдзельнічае ў гэтым драмкалектыве 25 год, другі — 35.

Я. Лаўрэнцьеў працуе токарам у паравозным дэпо, ён — актыўны рацыяналізатар, ударнік камуністычнай працы. Свой вольны час аддае сцэнічнаму мастацтву. У Народным тэатры тав. Лаўрэнцьеў— адзін з вядучых артыстаў. Ён паспяхова выступаў у ролях Паніча ў «Раскіданым гняздзе», Мілаўзорава ў «Без віны вінаватых», Кругліка ў «Барабаншчыцы», старога Васіля Мацвеевіча ў «Спатканнях ля чаромхі» і ў іншых.

М. Скарабагаты — інспектар Магілёўскага аддзялення Беларускай чыгункі. Сцэнічная дзейнасць стала яго жыццёвай патрэбай. М. Скарабагатым сыграна дзесяткі разнастайных роляў.

Юбіляраў цёпла віталі гледачы, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый. Ім былі ўручаны Ганаровыя граматы абласнога ўпраўлення культуры, партыйнай і прафсаюзнай арганізацый Магілёўскага чыгуначага вузла, каштоўныя падарункі.

### Творчасць дзяцей

У Дзяржаўным мастацкім музеі БССР адкрылася XV рэспубліканская выстаўка дзіцячай творчасці, арганізаваная Мінскім Палацам піянераў. Выстаўка прысвечана 40-годдзю піянерскай арганізацыі імя Уладзіміра Ільіча Леніна. Тут прадстаўлены малюнкі, скульптуры, разьба па дрэву, вышыўка. Усяго экспануецца 1.500 работ.



Кіпіць крышталь! Майстар-шклавар Пятро Дайнека сочыць за печчу.

## КРЫШТАЛЬ БЕЛАРУСКІ

За маленькім круглым акенцам шугае белае полымя. Там — тэмпература 1.600 градусаў. Нягледзячы на шум вентылятара, добра чуваць, як у гаршковай печы гудзе распаленае паветра. Калі б не вентылятар — не ўстояць каля печы, так горача.

У печы вараць крышталь. Той самы крышталь, які вабіць вока сваёй празрыстасцю, чароўным бляскам або таямнічым блакітным ззяннем. Паспрабуйце ціха шчоўкнуць па ім пальцам і ён адкажа меладычным звонам.

Праз акенца шклавар набірае на канец доўгай трубкі белы распалены камячок шыхты—вадкага крышталю. Каб не адарвалася ад яго ніводная кропля, круціць трубку ў спрытных руках, потым дзьме ў муншцук. І адразу распалены камячок чырванее, выцягваецца ў доўгую кроплю; потым становіцца падобным на бутэльку, урэшце набывае новую прывабную форму графіна...

Вось такая спецыяльнасць у Пятра Дайнекі. Па штатнаму раскладу ён — шклавар славутага беларускага шклозавода імя Дзяржынскага. Але яго спецыяльнасць мае больш дакладную назву: майстар. Так яго і многіх іншых шклавараў называюць сябры на рабоце. Рабочыя не памыляюцца. Толькі майстар можа вызначыць па празрыстасці крышталю якасць шыхты. Толькі майстар можа дакладна ведаць, колькі трэба пакласці крэаліну, каб надаць вазе белы ці, як кажуць, малочны колер. Трэба быць сапраўдным майстрам, каб з печы набіраць на трубку заўсёды аднолькавую колькасць вадкага крышталю, неабходную для вазы, ці для графіна, ці для кубка. Памылка дапускаецца толькі ў грамах.

— Самае галоўнае, ведаць працэс прыгатавання шыхты. — Пятро Дайнека насоўвае на вочы сінія акуляры і глядзіць праз акенца ў печ.

— А вы ведаеце? — з цікавасцю гаворым мы, баючыся пакрыўдзіць майстра не зусім тактоўным пытаннем.

— Як жа! Прыходзіцца вывучаць, рабіць пробную варку. Інакш немагчыма атрымаць якасны крышталь.

— Так, склад шыхты цяпер не з'яўляецца сакрэтам...

Дайнека ўсміхаецца. Ён успамінае, як на гэтым самым заводзе калісьці адзін толькі гаспадар ведаў, колькі трэба класці пяску, крэйды, паташу, каб атрымаць крышталь. Рэцэптура трымалася ў вялікай тайне.

Мы зразумелі, чаму Дайнека згадаў пра далёкае мінулае. Нядаўна яго сябра, майстар Уладзімір Жаваранкаў атрымаў сярэбраны медаль Усесаюзнай выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі. Атрымаў за выдатны крышталь. Як жа тут не прыгадаць гісторыю завода, якая дарэчы да апошняга часу была невядомай.

Барысаўскі шклозавод — адно са старэйшых прадпрыемств а ў Беларусі. Яго пачаў будаваць нейкі ўвішны гандляр Кабанаў у 1878 годзе. Праз адзінаццаць год была атрымана першая прадукцыя — бутэлькі і аконнае шкло. Хутка прадпрыемства пачалося называцца заводам Домбаля — па прозвішчу новага гаспадара. Домбаль многа год марыў аб крышталі. Аднойчы ён прынёс у вядзерцах сакрэтную шыхту. Пасля яго смерці крышталь на заводзе не варылі: не ведалі сакрэту...

Цяпер шклозавод імя Дзяржынскага — буйнейшае прадпрыемства. У вялізных цэхах сотні аўтаматаў вырабляюць шклянкі, графіны, кветачніцы, вазы і шмат іншага посуду. Толькі ў адным цэху працуе каля ста майстроў-алмазчыкаў. З дапамогай аўтаматаў яны наразаюць на паверхні посуду карункавыя ўзоры, якія з упэўненасцю можна назваць высокамастацкімі. А калі ўваходзіш у жывапісны цэх, здаецца, што трапляеш да сапраўдных мастакоў. Ды так яно і ёсць. Тут працуюць мастакі. Хай яны не пішуць пейзажаў, не робяць пано, не малююць карцін. Маленькімі пендзлямі яны кладуць фарбы на шкло і пад іх рукой ажываюць цудоўныя кветкі. На вазах яны робяць партрэты Пушкіна і Чайкоўскага, Юрыя Гагарына і Германа Цітова, малююць будынкі Палаца культуры прафсаюзаў у Мінску і Беларускага павільёна Выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі ў Маскве.

Кожны дзень машыны адна за адной вывозяць з завода скрынкі з надпісам: «Асцярожна. Шкло». У скрынках — прадукцыя завода. Яна ідзе ў розныя куткі нашай вялікай Радзімы.

**К. ІЛЬІН.**

Вось ён, цудоўны беларускі крышталь. Алмазчыца Тамара Кашкарава задаволена.

Вера Уронская (злева) будзе мастаком. Яна ўважліва сочыць, як робіць роспіс яе цёзка Вера Кіркевіч.

Фота Ул. Крука.

**Ул. ВАРНО**

## РОЗДУМ НАД ЗАКОНАМ

Хіба гэта не цудоўна, што слова «закон» — у мінулым для многіх казённае — выклікае ў нас такія сонечныя, радасныя эмоцыі?

Нядаўна прачытаў я ў газеце Закон «Аб ахове прыроды ў Беларускай ССР», і велічная, услаўленая народам і яго паэтамі прырода роднай Беларусі з'явілася перад маімі вачыма ва ўсёй сваёй неўміручай красе.

Леў Талстой і Максім Горкі, Ляонаў і Паустоўскі, Купала і Колас гаварылі і гавораць нам, што нельга любіць Радзіму, не любячы яе мовы і прыроды. Гэтую ж думку выказаў аднойчы Міхаіл Іванавіч Калінін, які быў перакананы, што радзіму, зямлю, прыроду трэба любіць не абстрактна, а з усім, што ў ёй ёсць добрага, — з лясамі, палямі, рэкамі, травамі. Толькі тады з'яўляецца ў сэрцы чалавека вялікая адданасць і вялікая любоў да сваёй краіны.

Для мяне мова Беларусі і яе прырода непадзельныя. Я вымаўляю толькі адзін радок неўміручага Купалы: «...на ўзбярэжжы ракі шумнацечнай», і перада мною ўзнікаюць карціны шторaз велічнейшыя і цудоўнейшыя. Калі мне даводзіцца ехаць у поездзе я літаральна прыліпаю да вагоннага акна, мне хочацца бясконца захапляцца прыгажосцю роднай зямлі, збіраць яе скарбы ў сваім сэрцы, радуючыся свайму вялікаму багаццю. На якім-небудзь паўстанку, дзе адразу ж за чыгуначным насыпам цвітуць прыгожыя лясныя рамонкі, а крыху далей шумяць вастраверхія мудрыя елкі і стромкія, з бронзаваю карою магутных ствалоў сосны, я хутка выходжу з вагона, і белагаловы хлапчук з сінімі, як квецень лёну, вачыма працягвае мне цудоўны гасцінец родных лясоў, загорнуты ў лісток са школьнага сшытка:

— Дзядзечка, бяры суніцы! Глядзі, якія чырвоныя!

Кожнаму з нас мілейшая за ўсё тая прырода, якая з мацярынскай пяшчотаю схілялася над яго калыскаю. Мне пашанцавала: я бачыў цудоўныя, шоўкам вышытыя захады сонца над Кызыл-Кумам і над нашымі цёплымі морамі — Чорным і Каспійскім. Падобная да нявесты ў вясельным убранні, шумела ля мяне квітнеючая алыча ў перадгор'ях Цянь-Шаня і на берагах бурлівага Вахша. Цалінныя стэпы дыхалі мне ў твар травамі, настоенымі на мёдзе... Але толькі прыродзе роднай Беларусі аддадзена маё сэрца непадзельна і назаўсёды.

У маленстве мы, хлапчукі, што жылі ў Мінску, на Камароўцы, бегалі ў лес з паэтычнай і дакладнай назвай—Крушыльнік. Шлях наш быў праз парослае мохам балотца, над якім мітусліва кружылася кнігаўка, звяртаючыся да нас з трывожным пытаннем: «Чые вы? Чые вы?!» Як сырадой, стаяў туман над сажалкамі рыбгаса, што межавалі з самым лесам. У Крушыльніку моцна і свежа пахла грыбамі, вільготнай карою дрэў, папараццю і мохам. Мы ведалі тут амаль кожную бярозу, здалёк пазнавалі чым-небудзь прыкметную елку, спяшаліся да любімых палян, мудрагеліста расфарбаваных суніцамі, званочкамі і рамонкамі.

І вось мінулым летам мне зноў захацелася наведаць лес майго маленства. Сэрца маё замірала, калі падыходзіў я да дарагіх мне мясцін. За спіною застаўся парк Чалюскінцаў (дарэчы кажучы, сумны гэты парк, і толькі вялікая патрэба можа прымусіць людзей адпачываць у ім сярод мітусні, пылу і выстраеных па ранжыру сосnaў, пазбаўленых сваёй першапачатковай натуральнасці), а Крушыльнікам усё і не пахла, ён усё адсоўваўся ад мяне ў недасягальную даль. Нарэшце я вырашыў спыніць чалавека, што ішоў мне насустрач.

— Скажыце, ці далёка да Крушыльніка?

На твары чалавека, на выгляд яму было гадоў дваццаць, адбілася вялікае здзіўленне.

— Крушыльнік? Гэта ж што такое? Нарадзіўся ў Мінску, жыву тут увесь час, а такой назвы нешта не чуў...

Прызнаюся, мне было да слёз крыўдна чуць такое прызнанне. Як гэта можна забыць імя роднага лесу! Ды гэта ж усё роўна, што забыць імя бацькі роднага!

Перабольшваю я? Нісколькі! Прыгадаем, што Чэхаў вуснамі доктара Астрава выказаў адну з самых патаемных і вельмі трапных думак аб тым, што лясы вучаць чалавека разумець прыгожае. Нават у падручніку для студэнтаў нашых лясных інстытутаў, стыль якога выключае паэтычныя вобразы, сказана: «Нельга думаць, што лес сам па сабе можа выклікаць да жыцця магутныя ідэі, якія адкрываюць асветленыя новым святлом шляхі. Але гісторыя навукі, літаратуры, музыкі і жывапісу паказвае, што лясы і паркі з'яўляюцца надзвычай спрыяльным асяроддзем для крышталізацыі новых ідэй і для творчасці».

У часы майго дзеда лясы шумелі на тым месцы, дзе цяпер Камароўка. Яшчэ на маёй памяці на вуліцах Маляўшчынскай і Бондараўскай раслі вялізарныя разгалістыя елкі. Яны вельмі ўпрыгожвалі Камароўку. А калі аднойчы гультай і выпівака Косця Сідарчук спілаваў на дровы векавую елку, што расла ў яго на двары, суседзям гэта так не спадабалася, што яны пабіць гатовы былі Сідарчука за такое свавольства. Ён выратаваўся толькі тым, што даў клятву пасадзіць узамен ссечанай елкі тры ліпы. І на самай справе, як толькі прыйшла вясна, ён выканаў гэтае абяцанне. Цяпер, не ведаю ўжо хто, дзеці Сідарчука ці якія прыйшлыя людзі, бязлітасна расправіліся і з гэтымі дрэвамі.

Так вельмі часта, не цэнячы казачнага багацця прыродных рэсурсаў у нашай краіне, раскідаемся мы гэтым багаццем налева і направа, распараджаемся ім не па-гаспадарску. Высякаем і выкарчоўваем лясы вакол гарадоў, вынішчаем зеляніну, а потым, спахапіўшыся, возім дрэвы з далёкіх лясоў, трацячы на гэта вялікія сродкі і бясцэнную чалавечую энергію. Каму, напрыклад, перашкаджалі лясы, што падступалі да Камароўкі, да Сляпянкі, Серабранкі, Старажоўкі і іншых ускраін Мінска?

Карціну накшталт вышэйапісанай можна назіраць у многіх гарадах рэспублікі, у тым ліку і ў Маладзечна, дзе я цяпер жыву Вакол гэтага спадарожніка Мінска яшчэ не так даўно сцяною стаялі цудоўныя лясы. Цяпер, калі сякера і піла пахадзілі там, ваколіцы Маладзечна сталі голыя і сумныя, як лысіна. Улетку на горад наступае пыл, бо яго не затрымлівае зялёная заслона. Варта толькі падзьмуць ветру, як слупы пылу ўзнімаюцца над вуліцамі, ён пранікае ў дамы, трашчыць на зубах у людзей. Вокны ў кватэрах нельга пакінуць адчыненымі, усе рэчы ў пакоях пакрываюцца густым налётам пылу.

Натоўпы гараджан, ратуючыся ад гэтага пылу, ад сумнай аднастайнасці гарадскога пейзажу, пазбаўленага прыроднай зеляніны, ідуць на рэчку з паэтычнай і мяккай, як павевы ветру ў чароце, назваю — Уша. Берагі гэтай рачулкі балоцістыя, таму аматары палавіць рыбку вымушаны абувацца ў цяжкія, шкодныя для здароўя, гумавыя боты. Асушыць, хоць бы ў межах трох-чатырох кіламетраў, берагі Ушы, зрабіць пляжы — пра гэта мы толькі марым.

І ўсё ж аматарам прыроды, вялікаму племю рыбаловаў, як назваў іх Канстанцін Паустоўскі, мілая гэта рачулка, якая ціха струменіць у чароце, варушыць на сваёй паверхні жоўтыя збаночкі лотаці і белыя водныя лілеі.

Праўда, ёсць у Маладзечна і каля яго людзі, у чым лексіконе не існуе слова прыгажосць. У лес яны прыходзяць толькі з сякераю і пілою, па-зладзейску азіраючыся, а на рэчку накіроўваюцца з сеткаю, кіслатою, узрывчаткаю. Управы няма на гэтых драпежнікаў, якія высякаюць цудоўныя сосны сабе на дровы і на продаж, знішчаюць рыбу — глушаць, атручваюць, вылоўліваюць яе сеткамі. Пра аднаго з браканьераў (завуць яго Ілья Чаеўскі) я пісаў у артыкуле, апублікаваным каля года назад у часопісе «Беларусь». І вось давялося ўсумніцца ў сіле друкаванага слова: ні міліцыя, ні гарсавет не прынялі ў адносінах да Чаеўскага ніякіх мер. Няўжо кіраўнікам гэтых аўтарытэтных арганізацый невядома, што людзі, якія ўзнялі сваю злачынную руку на нашу прыроду, замахнуліся на свяшчэнную ўласнасць народа, павінны, калі іх за руку злавілі, карацца па ўсёй строгасці закону.

Тыпы, падобныя да Чаеўскага, ёсць, як мог я пераканацца, і вакол Нарачы. Бывае, ідзеш па лесе з кошыкам, кожную хвіліну нагінаешся, каб зрэзаць маладзенькі бaравічок, падасінавік, які здалёк паказвае сябе сваім цёмна-чырвоным капялюшыкам, або вельмі пахучы рыжык... І вось пасля звыклага, спакойнага стуку дзятла, які нібы гаворыць табе аб тым, што ўсё ў парадку ў лесе, чуеш паспешлівы, нахабны стук сякеры. А вось ён і сам — драпежнік, які зрабіў замах на прыгажосць і багацце нашай прыроды. Напляваўшы на закон, сячэ ён прыгажуню-сасну. Ды і як сячэ! Пасля таго, як ён вывезе мёртвае дрэва, на месцы высечкі застанецца пень метровай вышыні. Пад карою гэтага пня, калі ён пачне гнісці, завядзецца караед, і ад нашэсця гэтых насякомых загіне не адно — дзесяткі цудоўных дрэў.

Не вельмі берагуць і багацце самога возера. Да нядаўняга часу нават рыбакі калгаса імя Чапаева карысталіся дробнаячэістымі сеткамі, вылоўлівалі дробную рыбу. Я сам быў міжвольным сведкам таго, як члены рыбалавецкай брыгады гэтага калгаса прадавалі дачнікам рапушку, злоўленую імі крадком у начны час або, калі называць рэчы сваімі імёнамі, украдзеную ў дзяржавы. а гэта значыць, у нас з вамі, паважаныя чытачы. Некаторыя дачнікі, з'яўляючыся саўдзельнікамі браканьераў, купляюць крадзеную рапушку, сяляву, як яе тут называюць. засольваюць на месцы і вязуць у Мінск. Пра гэта ведаюць і старшыня арцелі, і брыгадзіры, і інспектар па рыбнагляду. Ведаюць і... не больш таго! Добра жывецца ў Мядзелі, Чараўках, Купе і іншых населеных пунктах вакол Нарачы людзям, якія сваёй асноўнай «прафесіяй» зрабілі браканьерства і з гэтага, як кажуць, «жывуць».

Нарачанскі край—выдатны беларускі курорт, якому я асабіста аддам перавагу і перад Крымам і перад Каўказам. Тут, куды ні глянеш, — «тыповыя ландшафты, рэдкія і выдатныя прыродныя аб'екты», пра якія гаворыцца ў Законе. На беразе Нарачы знаходзіцца дом адпачынку друкароў сталіцы, ёсць турысцкая база, будуюцца новыя здраўніцы. Тут не павінна быць месца браканьерам, наша задача вывесці іх, як шкоднага жука-караеда.

Прыняты шостай сесіяй Вярхоўнага Савета Беларускай ССР Закон гаворыць аб тым, што мы не толькі абавязаны ахоўваць нашу родную прыроду, але і клапаціцца аб росце яе багаццяў. На практыцы гэта павінна выглядаць так: ссек дрэва — пасадзі два. А ці заўсёды мы так робім? Неяк ішоў я ўлетку па адной з найпрыгажэйшых дарог Беларусі — паміж Даўгінавым і Докшыцамі. Стаяць тут бярозы да таго вялізныя, што, калі б не бачыў іх сваімі вачыма, дык, бадай, і не паверыў, што могуць быць такія на свеце. У дарозе мяне заспеў дождж і, каб не прамокнуць, залез я ў дупло адной такой бярозы і адчуваў сябе там даволі ўтульна, давялося толькі крыху прыгнуцца. Кажуць, што бярозы пасаджаны, яшчэ пры Кацярыне II. Не ведаю, магчыма, гэта і не зусім так, але бясспрэчна, што гэтыя волаты перажылі не адно пакаленне людзей. Галіна такой бярозы, калі паставіць яе на зямлю, можа быць прынята за самастойнае дрэва. Перачакаў я дождж, вылез з дупла зусім сухі і пайшоў сабе далей, з удзячнасцю думаючы пра людзей, якія пасадзілі бярозы ў той час, калі на свеце не было яшчэ ні бацькі, ні дзеда майго.

І вось волаты лясоў паміраюць. То там, то тут бачыш гіганцкіх памераў пень, які моцна трымаецца за зямлю магутнымі карэннямі. Паспрабуй, выцягні яго з зямлі, сіл не хопіць! Вось вялізны, абвуглены маланкай, краж ляжыць з боку дарогі, а крыху далей яшчэ адно вялізнае дрэва рухнула на зямлю, напэўна, проста ад старасці, не ў стане вытрымаць цяжару ўласнай, вельмі пышнай кроны. Са смуткам думаеш пра тое, што прыйдзе час і ніводнай з гэтых вялізарных бяроз не застанецца на дарогах Беларусі. І да слёз крыўдна, што па суседству з векавымі прыгажунямі не шумяць маладым лісцем бярозы, пасаджаныя ў наш час.

Гаворачы аб прыдарожных бярозах, я меў на ўвазе не толькі адну прыгажосць, хоць і яна вельмі патрэбна людзям. Жывая зялёная сцяна абараняе зімою дарогу ад снежных заносаў, улетку паглынае пыл, узняты коламі аўтамабіляў, падвод, нагамі пешаходаў. А ці нельга мець з прыдарожных дрэў больш карысці, чым яны даюць нам цяпер? На самай справе, што нам перашкодзіць пасадзіць уздоўж дарог садовыя дрэвы — вішні, слівы, арэхі, яблыні?.. У горных лясах за Майкопам, на свабодзе, без удзелу людзей, растуць і пладаносяць грушы, яблыні, алыча, грэцкі арэх і фундук — брат нашага ляснога арэха, каштаны, якія можна есці.

Іншы чытач скептычна ўсміхнецца, прачытаўшы гэтыя радкі: Беларусь, маўляў, не Каўказ! Згодзен. Але ж амаль кожны з нас збіраў у маленстве арэхі не дзе-небудзь за Майкопам, а пад

(Заканчэнне на 2-й стар.).

